## Царква на продаж

Ірына СТАРЦАВА

На біржы ў Рыо-дэ-Жанейра будуць выстаўляцца на продаж акцыі каталіцкай царквы Бразіліі. Такім незвычайным шляхам рэлігійная дзеячы збіраюцца сабраць сродкі для дабрачыннага фонду ў дапамогу былым зняволеным, алкаголікам і сіротам.

Інвестары, што будуць набываць гэтыя акцыі, фактычна ахвяруюць свае сродкі царкве, бо адзіны прыбытак, які можна будзе атрымаць, – гэта падрабязная справаздача пра дзейнасць фонду, і ніякіх працэнтаў.

Зрэшты, прэзідэнт фондавай біржы падтрымаў ініцыятыву святых айцоў. Ён палічыў, што гэта дапаможа фондаваму рынку даць добры адказ на абвінавачванні ў скваплівасці. ■

## Мілошавіч прайграе выбары?

Міхась КАРПОВІЧ

Прэзідэнт Югаславіі Слабадан Мілошавіч афіцыйна зарэгістраваны кандыдатам на наступныя прэзідэнцкія выбары, прызначаныя на 24 верасня. Гэта адбылося ў нядзелю, паведаміла радыё «Свабода».

Тым часам, ягоны асноўны супернік, Ваіслаў Каштуніца, якога падтрымлівае ўся аб'яднаная дэмакратычная апазіцыя Сербіі, працягвае набіраць ачкі ў перадвыбарчай гонцы. Сацыёлагі з Бялградскага інстытута палітычных ведаў сцвярджаюць, што В.Каштуніца можа прэтэндаваць на 52% галасоў выбаршчыкаў, а Слабадан Мілошавіч – толькі на 33%.

У пятніцу Ваіслаў Каштуніца выступіў у Бялградзе з асноўнымі палажэннямі сваёй праграмы. Ён заявіў, што будзе імкнуцца да вяртання Югаславіі ў сусветную супольнасць, у прыватнасці, да поўнавартаснага супрацоўніцтва ў рамках ААН і АБСЕ.

Тым не менш, вядома, як у краінах з таталітарнымі рэжымамі падлічваюць галасы выбаршчыкаў. Таму перамога кандыдата ад апазіцыі зусім не відавочная. ■

## Тэлеграмаў больш не будзе

Ірына СТАРЦАВА

Нямецкая кампанія *Deutsche Telekom* паведаміла пра спыненне прыёму і адпраўкі любых міжнародных тэлеграмаў. На думку кіраўніцтва кампаніі, гэтая паслуга стала абсалютна нерэнтабельнай у эпоху факсаў і электроннай пошты.

І гэта сапраўды так. Як паведамілі эксперты, сёлета ў кампаніі было ўсяго 70.000 кліентаў на гэтую паслугу, а яшчэ летась (і пазалетась) іх было каля 1.700.000 чалавек. Яшчэ адным аргументам на карысць спынення знешніх тэлеграфных стасункаў стала істотная розніца ў кошце. Да прыкладу, тэлеграма ў 20 словаў каштуе ў Германіі каля 20 марак (амаль 10 долараў), факс – менш за марку, а электронная пошта – яшчэ менш. Сучасныя сродкі сувязі дазволілі дастаўляць інфармацыю хутчэй і прасцей, чым раней. Тэлеграмы сталіся больш неактуальнымі.

Тым не менш, кіраўніцтва *Deutsche Telekom* паведаміла, што для Беларусі, Расіі і Украіны будзе зроблена выключэнне. Гэта звязанае з тым, што ўзровень жыцця ў нашых краінах яшчэ вельмі нізкі, і таму далёка не кожны можа дазволіць сабе мець факс або электронную пошту. Так што для нас усё застаецца па-ранейшаму. Правда на жыццё пакуль пакінулі і ўнутрыгерманскім тэлеграмам – паштальёны *Deutsche Post* будуць спраўна разносіць іх. ■

## Палёт пад мостам на перавернутым самалёце



Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У Літве чэмпіён свету па вышэйшым пілатажы Юргіс Кайрыс учыніў вельмі рызыкоўны пралёт пад мостам на перавернутым дагары самалёце. Такога не рабіў яшчэ ніхто. Паглядзець на смяротны трук прыехаў нават чэмпіён свету па аўтагонках *Formula 1* Міка Хакінен.

Падзея адбывалася ў Каўнасе. Напярэдадні Юргіс Кайрыс – сусветна вядомы пілот-каскадзёр – правёў прэс-канферэнцыю, на якой паведаміў, што збіраецца ўстанавіць сусветны рэкорд: праляцець на перавернутым дагары спартыўным самалёце пад пешаходным мостам імя караля Міндоўга. Гэты мост звязвае дзве часткі горада.

Для пералёту выкарыстоўвацца расійскі самалёт СУ-26. У прызначаны дзень побач з мостам сабраліся ледзьве не ўсе жыхары горада, а таксама шматлікія госці. Спярша Ю.Кайрыс учыніў просты пралёт пад мостам, не перакульваючы самалёт. Прасвет паміж вадой і металёвымі канструкцыямі моста, дарэчы, складае ўсяго 10 метраў.

Пасля пілот перавярнуў СУ-26 і зрабіў некалькі спробаў пралёту. У рэшце рэшт Ю.Кайрысу ўдалося паставіць сусветны рэкорд.

Калі ўсё скончылася, госцю з Фінляндыі Міку Хакінену ў якасці выключэння дазволілі пасядзець у кабіне пілота. Яму, відавочна, спадабалася. ■

## Дарагі Біл, падкінь на камп'ютэры!

Ірына СТАРЦАВА

Міністэрства навукі і адукацыі Украіны падрыхтавала зварот да кіраўніка кампаніі *Microsoft* Біла Гейтса з просьбай прадаставіць дапамогу ў камп'ютэрызацыі ўкраінскіх школаў. Пра гэта паведаміў журналістам агенцтва РБК міністр навукі і адукацыі Украіны Васыль Крэмэнь. Па ягоных словах, аналагічны зварот ягонае ведамства рыхтуе і да кіраўніцтва Сусветнага банка. В.Крэмэнь зазначыў, што сумы ў 6,5 мільёнаў грывень (1,18 мільёна долараў), выдзеленай украінскім урадам на набыццё камп'ютэрнай тэхнікі, падключэння да інтэрнета і навучання настаўнікаў, яўна недастаткова. ■

# Могилу будут дырявить

Виктор ТЕМНЫЙ

**Воинский обычай гласит: нельзя оставлять тела погибших на месте их гибели. Если есть хоть малейшая возможность, мертвые должны быть погребены со всеми положенными почестями. И, как бы оправдываясь за свою беспомощность в операции по спасению АПЛ «Курск», высшее военно-политическое руководство России строит теперь планы по эвакуации тел погибших моряков из их братской могилы под серыми волнами Баренцева моря. Теперь это не только гражданский долг власти перед людьми, ее защищавшими, но и вопрос политического престижа.**

Главный конструктор санкт-петербургского ЦКБ «Рубин» Игорь Спасский поведал, как, по его мнению, будет происходить извлечение тел из погибшей лодки. Для этого придется прорезать во всех помещениях лодки отверстия размером 1,5 на 0,7 метров, через которые глубоководные водолазы извлекут трупы. Браво, типично российский подход к задаче: с помощью кувалды и такой-то матери!

Представьте себе: на глубине 108 метров люди, одетые в тяжелые скафандры, вскрывают корпус лодки. А это вам не банка консервная, и даже не «Жигули»! Толщина прочного корпуса падводной лодки местами достигает нескольких сантиметров, и не стали, а в случае с «Курском» — легированного титана. Чем собираются пилить такие отверстия? Ведь газовым резакам этот материал поддается с большим трудом. И как определили необходимый диаметр эвакуационных отверстий? Да простят нам читатели страшные подробности: захлебываясь водой, человек умирает в агонии, а конвульсивные сокращения мышц придают телам невообразимые позы...

Еще одна опасность: радиация. Даже если пока дозиметры не фиксируют превышения фона, это ничего не значит. А вдруг погибших придется извлекать из реакторного отсека, где могут находиться поврежденные «котлы»? Пока застойная радиоактивная вода не проникает за обшивку корабля, но как только отсек будет вскрыт, водолаз неизбежно получит колоссальную дозу облучения. Конечно, существуют индивидуальные защитные комплекты, но они тяжелы и громоздки. Навешивать же противорадиационную «броню» на тяжеловодолазный скафандр представляется полным безумием.

Да и где взять водолазов, коли их не было на момент аварии? Конечно, российские спасатели пройдут стажировку на норвежском спасательном судне. Кроме того, в группе спасателей из трех человек будет и один норвежец. Но скажите Бога ради, многому ли можно научиться за две недели, отведенные на стажировку? И кроме того, сами норвежцы в корпус лодки не пойдут, будут страховать действия россиян из водолазного колокола. Как это понимать? Наверное, западные военные трезво оценивают степень опасности, которой подвергается водолаз при подобном способе действий.

И еще одно настораживает. Официальные источники утверждают, что подъем самой лодки будет осуществляться российской стороной без технического содействия Запада, но, возможно, при его финансовом участии. То есть: не хотите реактор под носом — гоните бабки, а мы уж сами разберемся. При этом никаких подробностей о способах подъема атомохода не сообщается — только сроки начала операции и примерная стоимость! Типа, президент в курсе, и того достаточно. А есть ли такой способ, коим можно поднять полностью затопленную субмарину водоизмещением 24 тысячи тонн? Конечно, англичанам удалось поднять немецкую эскадру, затопленную в Скапа-Флоу в конце Первой мировой войны, а там потяжелее кораблики были. Можно вспомнить и блестящую деятельность советской организации ЭПРОН, вернувшей РККФ не один корабль, в том числе и подводные лодки. Но во всех упомянутых случаях корпуса затонувших кораблей сначала герметизировались, затем продувались воздухом, и после этого буксировались к берегу. Но как обеспечить плавучесть субмарины, зияющей метровыми дырами? Этого пока не знает никто. ■

# «Возьму в аренду «Мерседес». Президент»

## Такое невозможно в Беларуси, но происходит в Латвии

Арминс ВИСМАНТС, агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) – специально для газеты НАША СВАБОДА

**Весь сентябрь президент Латвии Вайра Вике-Фрейберга будет ездить на арендованной автомашине, так как ее 9-летний «Мерседес-Бенц 500» находится на ремонте.**

Латвийский президент только что вернулась из отпуска, который она по приглашению украинского коллеги Леонида Кучмы провела в Крыму. «Чтобы госпожа президент могла из своей юрмальской резиденции приехать в свою рабочую резиденцию в Рижском замке, нужно арендовать автомобиль», — рассказала журналистам пресс-секретарь президента Латвии Айва Розенберга.

Дело в том, что постоянный служебный автомобиль главы латвийского государства 1991 года выпуска находится на ремонте в ООО «Доминикс» – у официального дилера концерна «ДаймлерКрайслер» в Латвии. Фирма, видя техническое состояние часто ломающегося президентского лимузина, предложила бесплатно предоставить в аренду «Мерседес» на 7 лет новее.

А.Розенберга сообщила, что, пока президент Латвии будет ездить во взятой напрокат машине, ее канцелярия будет решать «автомобильную проблему президента, чтобы обеспечить ей нормальные условия работы». По мнению газеты «Ригас балсс», единственным выходом может быть покупка новой автомашины, однако, как сказала А.Розенберга, «в бюджете деньги на покупку нового автомобиля не предусмотрены, их нужно запрашивать отдельно».



На дверцах президентского «Мерседеса» серого цвета уже давно имеются вмятины, которые появились, когда главой государства был еще Гунтис Улманис. Еще тогда возникла идея купить президенту Латвии новую машину, но официально такое предложение сделано не было. А в прошлом году главный «Мерседес» Латвии сбил в соседней Литве корову, что, конечно, не улучшило техническое состояние машины. По данным агентства «Ю.С.Ньюс», за два последних месяца автомобиль президента находился в ремонте 5 раз, что потребовало примерно 2 тысячи латов (около 3.300 долларов) из бюджета президентской канцелярии. Личного автомобиля у В.Вике-Фрейберги нет.

В 1999 году канцелярия президента Латвии уже запрашивала средства на покупку нового бронеавтомобиля в размере 90 тысяч латов (150 тысяч долларов). Но по причине сложного состояния бюджета деньги не были выделены. В адрес президента тогда прозвучали упреки в прессе в связи с тем, что она думает о новом автомобиле, когда в стране напряженное финансовое положение. ■

НЯМІГА

# Вінаватыя ў «шведскай Нямізе» асуджаныя

Паліна СЦЕПАНЕНКА

29 жніўня 2000 г. у Швецыі, у горадзе Гётэборг вынесенае судовае рашэнне па справе чатырох чалавек, якія 30 кастрычніка 1998 года падпалілі дыскатэку. У пажары загінулі 63 маладыя чалавекі ўзростам ад 14 да 20 гадоў, 250 атрымалі апёкі і траўмы розных ступеняў цяжкасці. За дапамогу следству дзяржава паабяцала тры мільёны шведскіх крон (каля трохсот тысяч долараў). У выніку злачынцы былі знойдзеныя – хлопцы іранскага паходжання, якія прыехалі ў Швецыю са сваімі бацькамі на пачатку 90-х гадоў.



29 жніўня гэтага года суд прызнаў усіх чатырох вінаватымі. Увечары 30 кастрычніка 1998 года яны хацелі прайсці на дыскатэку без квіткоў, адмаўляліся плаціць. Калі з гэтага нічога не атрымалася, вырашылі «сапсаваць вечарынку», праз чорны ўваход кінулі ў будынак падпаленую паперу. Пачаўся пажар. Падчас следства падпальшчыкі настойвалі на тым, што «не хацелі ахвяраў» і «не думалі, што могуць загінуць людзі». Маладых іранцаў абаранялі вельмі вядомыя ў Швецыі адвакаты, якія сцвярджалі, што іх падабаронныя не мелі плана наўмыснага забойства. У выніку 21-гадовы малады чалавек, які прызнаўся, што менавіта ён сваімі рукамі падпальваў паперу, атрымаў 8 гадоў турэмнага зняволення. Яшчэ двое (21-гадовы і 19-гадовы), якія не прызналі сваю віну, асуджаныя на 7 гадоў. Тры гады прымусовага «псіхічнага лячэння маладых злачынцаў» атрымаў той 19-гадовы хлопец, які першым прызнаў свой удзел у злачынстве і выступіў у якасці сведкі.

Такі прысуд лічыцца па шведскіх законах вельмі суровым пакараннем для людзей маладога ўзросту. Але і падпал з ахвярамі лічыцца ў Швецыі адным з самых жахлівых злачынстваў. Не выключаная магчымасць, што прысуд будзе абскарджаны ў Вярхоўным судзе.

Судовы працэс над затрыманымі пачаўся вясной 2000 года, у ім прыняло ўдзел шмат людзей – каля 300 сведкаў і 250 сваякоў загінуўшых.

**Па матэрыялах Праваабарончага цэнтра «Вясна»**

# Белорусский черный пиар

**Константин СКУРАТОВИЧ**

**С началом избирательной кампании все вдруг заговорили о «грязных» технологиях, о необходимости борьбы с ними, потому что они дают незаслуженные, добытые нечестным путем преимущества одного кандидата над другим.**

Отдельные ретивцы утверждают, что «грязных» технологий в Беларуси раньше не было. И это при том, что дефиниция «политика – грязное дело» появилась вместе с первым политиком». А уж у нас грязи (Беларусь извечно страна болот) всегда хватало за глаза. Ведь что такое практикуемые до сих пор нашими гражданами анонимные доносы друг на друга, если не «грязные» технологии, или, как теперь принято говорить, черный пиар.

Так и хочется спросить, чем же занималось КГБ? До перестройки и гласности, понятно, компромат хранился в сейфе и извлекался, когда было необходимо, чтобы «сложилось мнение». А после объективка на каждого «неформала» зачитывалась на партхозактивах всех уровней. Сидишь, бывало, и слушаешь, что N пьянствует, M с женой не живет, а L без разницы с кем жить, с женой, любовницей или любовником.

Чего-чего, а опыта «грязных» технологий у нас за глаза. Помните, как на президентских выборах у одного из кандидатов в президенты штаб противной стороны отыскивал еврейские корни, а своего кандидата представил спасителем евреев в годы войны. А третий обещал хлеб и молоко. А четвертый, вообще, устроил покушение на себя любимого. Что это, если не грязь?

Но в прежние времена такие приемы назывались не пиаром, а манипулятивной пропагандой. Приемы у нее различные, но всегда такая пропаганда избегает объективности. Например, когда требуется поднять боевой дух у солдат перед наступлением, начальство заявляет, что для победы нужен один десантный полк и одна ночь времени. А чтобы не впадала в панику солдатская родня, СМИ говорят о незначительных потерях с «нашей стороны» и огромных — у противника.

По мнению французского психолога Густава Ле Бона, которого рэйхсминистр пропаганды Геббельс считал лучшим мастером манипулирования и своим учителем, толпа думает образами. Вовлекаемый в ассоциативную цепочку первый образ вызывает в памяти серию других образов, не имеющих никакой связи с оригиналом. Толпа вряд ли способна отличать субъективное от объективного. Люди воспринимают только реальные образы, обусловленные их опытом, хотя чаще всего они имеют очень косвенное отношение к наблюдаемому факту.

А вот мнение Гитлера из «Майн кампф»: «Вся пропаганда должна быть популярной, и ее интеллектуальный уровень должен быть приспособлен к тому уровню, которым владеет большинство тех, кому эта пропаганда адресована. Таким образом, чем для большей массы она предназначена, тем более низким должен быть ее интеллектуальный уровень... Люди в огромном большинстве очень феминистичны по своей природе и в отношениях действительности и трезвые рассуждения определяют их мысли и поступки в намного меньшей степени, чем эмоции и чувства».

Гитлер был популистом, он говорил немцам поэтическую правду, внушающую надежды на скорое и быстрое изменение в лучшую сторону всего строя жизни, на избавление от национального унижения. Он обещал немцам то, чего они страстно хотели. Лукашенко был популистом и действовал точно так же: обещал белорусам то, чего им больше всего не хватало. А в итоге они стали делать то, что было выгодно власти, а дефицит нужного им стал еще большим. Поэтому манипуляции должны идти по нарастающей. Ведь какую цель ставят, когда называют политических противников «отребьем»?

В советские времена принято было критиковать поп-культуру за примитивизм и бездуховность. Но эта критика, по меткому замечанию Б.Шкловского, ничего от этого не теряла в своей популярности, потому что отвечала эстетическим запросам большинства. В том смысле что соответствовала своему назначению массовой, предпочитаемой большинством народа (от лат. *populus*– народ). Поэтому «Анжелика» супругов Голон по популярности побивала все произведения советских писателей-народников.

Нынешняя власть в выборе технологий себя не ограничивает, ресурсы не считает и никого к ним не подпускает. Разве 100 долларов, выделяемые на избирательную кампанию нынешним кандидатам, это не черный пиар?

А многие из них обвиняют Лукашенко в популизме, утверждают, что они никогда до него не опустятся. Мне это безразлично, но грустно от того, что шансов у них нет. А когда я слышу, что N баллотируется в парламент, чтобы заниматься экономическим просвещением масс, вполне понимаю, что N как политик умер еще до рождения. Не просветительством надо заниматься, а бороться за власть, чтобы иметь возможность сделать народу больно, чтобы вылечить его. Просветителей у нас полно и без политиков. ■




**Лучше песни за столом, чем такие выборы!**

# Размышления у подъезда

**Людмила ГРЯЗНОВА, депутат Верховного Совета 13-го созыва, член оргкомитета Хартии'97**

**Говорят, что хороший сосед лучше дальнего родственника. Мне посчастливилось иметь добрую соседку – пожилую, одинокую женщину. Деревенской девчонкой пережила она войну, освоила портняжное дело и долгие годы проработала, склонив голову над швейной машинкой. Никогда чужого не брала, экономила заработанные копейки и как могла помогала своим близким – двоюродным внукам и соседям по дому.**

Наша дружба с ней началась с того, что она приютила мою двухлетнюю дочку, захотевшую поиграть в беглянку. После этого случая соседка стала для меня настоящей палочкой-выручалочкой: и ребенка присмотрит, и квартиру покараулит. За десять лет никогда ни в чем не отказывала.

Помню, как она внимательно слушала трансляцию с заседаний Верховного Совета 12-го созыва, следила за выступлениями Лукашенко. Нравился он ей, казался борцом за справедливость. Конечно, на президентских выборах проголосовала за него.

Но год назад она стала уставать от речей избранного и жаловаться на свою жизнь. Припомнила мои слова против Лукашенко. И вот теперь спрашивает, что делать ей с выборами в палату – идти голосовать или нет. После того, как ее пенсия скукожилась до десяти долларов, а цены подпрыгнули в поднебесье, после того, как основным источником пропитания стал сбор бутылок, моя простодушная соседка готова послушать и оппозиционное мнение.

Конечно, говорю я ей – на эти выборы ходить не надо. Нужно выборы в палату бойкотировать. При Лукашенко не один парламент не может быть самостоятельным. Верховный Совет 13-го созыва он разогнал. Депутатов уволил с работы, а кто сопротивлялся диктату, лишил жизни. Карпенко умер. Гончар исчез. Не может он нормально разговаривать с оппонентами, понимает только силу. Палату представителей, куда назначил своих депутатов, держит при себе так, чтобы она не рыпалась. Против него палата не выступает, говорит, что велено, интересы народа не защищает. К тому же депутатов не видно, не слышно. По телевизору показывают только самых льстивых, у кого нет собственного мнения и достоинства. При нынешних порядках назначат в новый парламент тех, кто нужен власти. Для отвода глаз и успокоения местной и зарубежной общественности запустят несколько оппозиционеров, которые ничего в стенах Овального зала не изменят. Дурная бесконечность продолжится.

Что будет иметь от этих выборов моя добрая соседка? Она будет иметь прежнего президента Александра Григорьевича – и на долгие годы. С новой палатой, за которую якобы проголосует народ, куда войдут для отвода глаз несколько деятелей оппозиции, выборы в которую пройдут под наблюдением западных контролеров, он станет полноценным президентом. Не таким, как сейчас. С нынешней палатой представителей, куда депутаты назначены указом, он таковым не считается. Другие президенты в гости его не приглашают (только славянские «друзья») и к нам не приезжают. Сегодня с такой перспективой моя соседка не согласна. Один раз обожглась, вновь такую же ошибку совершать не хочет.

Может ли она надеяться, что пенсия у нее вырастет? Как будто в парламент придет много умных голов, уж они-то заставят Александра Григорьевича увеличить пенсии. Но они и не заставят, и ничему не научат его. Не тот танцор, необучаемый. Всем ноги отдавливает в лучшем случае, а в худшем – еще более важные органы. А как он руководит страной, бедные пенсионеры уже убедились за шесть лет на собственном здоровье. Ни рыбки, ни фруктов, ни белков, ни витаминов они не получают, как прописывает врач. Поэтому хиреют, болеют и завидуют литовским и польским ветеранам труда, которые пенсию считают сотнями долларов. Не хочет известный борец за справедливость вести страну за цивилизованным миром – не дает людям заработать, а пенсионерам получать нормальные пенсии.

Может ли моя соседка надеяться на то, что все будет тихо и спокойно в Беларуси, никто не будет погибать в «горячих» точках и в обрушившихся подъездах? То, последнее, за что держатся многие наши люди – «лишь бы не было войны» – под большой угрозой при нынешнем президенте. Сколько раз уже пытались создать союз двух государств – России и Беларуси. Но Запад при этом округлял глаза и делал вежливое замечание: союз не действителен, его подписывает президент, не имеющий настоящего выборного парламента. Если выборы состоятся, если оппозиция в них будет участвовать, если приедут западные наблюдатели на выборы, то Лукашенко может смело подписывать союзный договор. И не только подписывать, но и голосами депутатов (за минусом десятка) ратифицировать. Никто в мире глаз уже не округлит и не выразит дипломатической озабоченности по поводу исчезновения независимого белорусского государства. Нашим хлопцам придется идти в российскую армию. Россия постоянно участвует в военных конфликтах, воюя с другими народами. Поедут бедненькие наши Янки и Алеси в Чечню или куда еще, станут там пушечным мясом и будут возвращаться, как российские Вани и Пети, домой в виде груза номер «двести». А могут и не вернуться, если окажутся в самой современной, напичканной секретами субмарине, потерпевшей катастрофу на очередных учениях. Что такое война, россияне уже почувствовали. Взорванные дома и подземные переходы, цинковые гробы и море материнских слез – для них это не просто телевизионные картинки. Неужели и нам это нужно? Неужели одного испытания, посланного Чернобылем, нам мало? Поэтому и не хочет моя добрая соседка союза с Россией, боится взрывов и катастроф, которые могут оказаться здесь, в Беларуси.

Не буду объяснять своей пожилой соседке, что целый год две стороны – оппозиция и президентская власть – пытались при посредничестве западных дипломатов договориться об условиях выборов в парламент. Ей сложно разобраться в этих условиях. Скажу только, что порядочные люди так не поступают, не прогоняют посредников, не подменяют подлинную оппозицию угодными людишками, не превращают переговоры в спектакль для дураков, как поступил известный борец за справедливость.

Сегодня не верит ему моя добрая соседка. Прислушивается к моему мнению. По-другому помочь я ей не могу. Холодильник не наполню, может быть раскрою глаза и подскажу, что делать– на эти выборы не ходить. ■

**ЧУЖЫ ВОПЫТ**

## Франция снижает ряд налогов

В общей сложности на 120 млрд. франков (примерно 18 млрд. долларов) будут сокращены в 2001—2003 годах налоги во Франции. Программа предусматривает общее сокращение подоходного налога, налогов компаний на прибыль, уменьшение поборов на некоторые виды нефтепродуктов и полную отмену налога для автовладельцев. Все это стало возможным благодаря ускорению темпов экономического роста, появлению в казне незапланированных избытков денежных средств и уверенности в сохранении нынешней благоприятной конъюнктуры в течение длительного периода. По словам Л.Фабиуса, сокращение подоходного налога коснется 94% налогоплательщиков, отчисления которых в казну снизятся в среднем на 10%. В абсолютных цифрах речь идет об уменьшении выплат по этой статье примерно на 45 млрд. франков. Чем выше доход семьи, платящей налоги, тем больше будет сокращение этих выплат в процентном отношении. Одновременно на 10% в среднем снижаются налоги, которые выплачивают фирмы и компании. Сокращаются налоги на мазут, используемый для отопления домов, а также выплаты граждан в специальный социальный фонд. Однако самой популярной мерой станет полная отмена налога на автовладельцев, которая была введена в 1956 году как временная мера. Эта статья ежегодно приносила французской казне 12 млрд. франков. ■

## Труд президента ценится невысоко



В результате постоянного роста разрыва между высокими и низкими зарплатами доходы руководителей американских предприятий сейчас в среднем в 475 раз превышают доходы рабочих и в 62 раза – оклад президента США. Эти данные приведены в докладе, подготовленном экспертами американского Института политических исследований и Ассоциации за справедливую экономику. Согласно их подсчетам, доходы руководителей предприятий за последние 10 лет выросли в шесть раз, тогда как средняя зарплата рабочих, которая составляла в прошлом году 23.753 доллара в год, увеличилась всего на 32%. В 1960 году средний доход руководителя предприятия превышал оклад президента в два раза. Сегодня он превышает его в 62 раза. ■

# 3 верасня: Косткі продкаў – на сметнік

## Свята пісьменства рыхтуюць малапісьменныя. Так было ў старажытным Заслаўі

Таццяна АНТОНАВА-МЕЛЬЯНОВІЧ

**Свята беларускага пісьменства ладзіцца ў нашай краіне ўжо сёмы раз. У папярэднія гады цэнтрамі яго правядзення былі Полацк, Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск. Усе гэтыя старажытныя асяродкі нацыянальнай культуры звязаныя з імёнамі славутых асветнікаў і першадрукароў: Еўфрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Кірылы Тураўскага, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Пятра Мсціслаўца, Лаўрэнція Зізанія...**



Міхаіл Мясніковіч цалуе хлеб

Для папулярызацыі духоўнай спадчыны нашага народа такое свята, канешне ж, магло сыграць сваю вельмі станоўчую ролю. Але змест свята патроху стаў трансфармавацца ў адпаведнасці з новымі дзяржаўнымі прыярытэтамі. Ідэю незалежнасці замянілі ідэяй інтэграцыі і не зусім зразумелага славянскага адзінства. А ў асноўным усё працягвалася па схеме: па пэўным маршруце падчас правядзення мерапрыемства выпраўляецца навукова-творчая экспедыцыя «Дарога да святыняў» у складзе вядомых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі; упарадкуецца месца правядзення свята, куды з'язджаюцца са сваёй прадукцыяй выдавецтвы, што фінансуюцца з дзяржаўных крыніцаў; выступаюць перад прысутнымі госці і гаспадары, расказваецца аб дасягненнях у галіне кнігадрукавання і друку.



Заслаўе. Замчышча. Былы кальвінскі збор, дзе служыў прапаведнікам Сымон Будны. Зараз Спаса-Прэабражэнская царква

У Заслаўі, відаць, увогуле вырашылі правесці грандыёзны фэст – так, каб уразіць да немагчымасці славянскіх братоў і сёстраў, што задзейнічаны на ніве пісьменства.

Жыхары Заслаўя цярпліва сачылі за дзеяннямі рабочых брыгадаў, прысланых з розных раёнаў вобласці на «чыстку» старажытнага, але занядбанага горада. Яны шчыравалі па ўсім Заслаўі: праводзіліся новыя камунікацыі, пашыралася дарога, рамантаваліся дахі, фасады, франтоны. Пра якасць, дарэчы, гаворка не ішла. «Для гасцей Заслаўя будуем, а не для вас», – нярэдка можна было пачуць. (Вось і атрымалася, што зверху прыгожанькі дамок, а калі ідзе дождж, вада па дымаходу цячэ ўнутр.) Апошнюю ноч перад святам работа кіпела аж да світанку. Затое ў ранішнім тумане Заслаўе – калыска беларускай культуры і праваслаўя – паўстала казкавым гарадком. Адрамантаваная пасля пажару выглядае як навенькая Спаса-Прэабражэнская царква. Касцёл на плошчы, так здаецца з першага позірку, яшчэ не кранула рука рэстаўратара, але пабудова абнесеная плотам і на ёй для цікаўных напісана «Ідзе рэстаўрацыя», дарога ад станцыі і ўся цэнтральная плошча выкладзеныя пліткай.

– Колькі ж магла каштаваць дзяржаве гэткая грандыёзная акцыя, як сёлетняе свята беларускага пісьменства, – пацікавілася я ў прадстаўнікоў Дзяржкамдруку рэспублікі.

– Цяжка сказаць... – разгублена развялі яны рукамі, – напэўна, нямала.

Заінтрыгавалася гэтым «нямала», я вырашыла даведацца, «што па чым» у Заслаўі. Кніжка «Памяць», што цалкам прысвечаная Заслаўю і яго гісторыі, напрыклад, каштуе шэсць тысяч. Зразумела, што набыць яе – не па кішэні для шараговага дзяржаўнага служачага. Зарплата навуковых супрацоўнікаў Заслаўскага гісторыка-культурнага запаведніка складае ўсяго 20–30 тысяч рублёў, настаўнікаў 30–40, столькі ж атрымліваюць журналісты большасці дзяржаўных выданняў. Так што мець ва ўласнай бібліятэцы патрэбную кнігу будзе цяжкавата. Амаль увесь яе невялікі тыраж – 2,5 тысячы экземпляраў, відаць, застанецца ў Заслаўі.

Затое гутарка з былым галоўным архітэктарам Заслаўя, які цяпер працуе начальнікам УКСа свайго горада і ўзначальваў работы па яго ўпарадкаванні, Генадзем Жлабовічам атрымалася надзвычай змястоўнай.

– Зверху нам быў спушчаны праект добраўпарадкавання горада, падпісаны ўсімі дзяржаўнымі чыноўнікамі, як гэтага патрабуе пратакол. Згодна з ім, пашыраючы на два метры дарогу, мы мусілі спілаваць старыя дрэвы ля касцёла, побач з ім знесці драўляны дамок, аўтэнтычны амбар, што з'яўляецца помнікам драўлянай архітэктуры XIX стагоддзя, а таксама знесці будынак Дома культуры, у выніку чаго знішчаны падмурак палаца Глябовічаў. Я быў супраць гэтага варварства, што здзяйснялася на маіх вачах. Я пратэставаў, нагадваў, што закон забараняе так абыходзіцца з помнікамі на тэрыторыі запаведніка.

З пратэстамі былога архітэктара не палічыліся тыя, хто камандаваў парадам. У нас ёсць законы, неабавязковыя для выканання. У дзяржаве існуе спецыяльны спіс асобаў, якім дазволена не выконваць закон у імя нейкіх вышэйшых мэтаў. Спаса-Прэабражэнская царква цяпер стаіць, нібы тая сіраціна на голым пляцы. А раней да царквы вяла цудоўная алея, быў парк... Падняцца на валы, што абкружаюць царкву, цяпер проста. У адпаведнасці з тым «геніяльным» праектам зробленыя каменныя прыступкі. Кажуць, што ў «камандзіраў нарада» было імкненне «разабрацца» ўвогуле з валамі, убраць іх, як і падмуркі старажытнай брамы, што вялі да палаца князёў.

Пачуўшы аб напалеонаўскіх планах па добраўпарадкаванні Заслаўя да свята пісьменства, сюды тэрмінова выехаў археолаг Ю.Заяц, які доўгі час займаўся тут раскопкамі. Парады і пратэсты вучонага былі таксама праігнараваныя.

...Набажныя цёткі, што забіліся ў гэты цёплы дзень у касцёл і аб нечым сваім малілі Матку Божую і Ісуса, спачатку не хацелі адказваць на маё пытанне, мабыць, нечым былі моцна абражаныя. Толькі адна старая са слязамі паведаміла, што пасля работ па пашырэнні дарогі ля касцёла супрацоўнікі запаведніка сабралі некалькі мяхоў чалавечых костак. Гэта значыць, што рабочыя «ўспаролі» магілы XIII-XVIII стагоддзяў ля касцёла. Дадам, могілкі гэтыя былі зафіксаваныя археолагамі, спецыялісты ведалі пра іх існаванне і тым не менш дазволілі іх знішчэнне. На юрыдычнай мове гэта кваліфікуецца як злачынства.

Пасля ўсяго пачутага непрыемна было ўдзельнічаць у свяце пісьменства, слухаць выступы з імправізаванай трыбуны пра неабходнасць вяртання да духоўнасці, да вытокаў, пра абавязак бараніць сваю гістарычную спадчыну.

...Непадалёку ад плошчы з разбуранымі могілкамі піў, еў, спяваў, весяліўся народ, мабыць, і не ведаючы, у якую гісторыю ён у чарговы раз трапіў. Чароўную аўру горада так лёгка разбурыць. І зроблена гэта ў юбілейны для хрысціянскага свету год. Сапраўды, ёсць нагода задумацца: «хто мы, такія?», «Чаму з намі гэткае можа вытвараць нашае «начальства»?» ■



3 верасня, Заслаўе. Свята беларускага пісьменства. Паказальныя выступленні

# На полі Крапівенскім

Зміцер БУЛАЙ

**Культурна-асветніцкі цэнтр імя Уладзіміра Караткевіча рыхтуе святочныя мерапрыемствы ў гонар славутай Аршанскай бітвы. Сёлета святкаванне прызначанае на суботу, 9 верасня, і, па традыцыі, мусіць адбыцца на тым самым Крапівенскім полі, адкуль «слава Оршы» пракацілася па ўсёй Еўропе. Таму гасцінныя аршанцы запрашаюць у гэты дзень да сябе ўсіх, каму неабыякавае мінулае Беларусі.**

Дадзеная традыцыя мае даўнюю гісторыю. Ужо дзевяць гадоў прайшло з той пары, калі Андрусь Мельнікаў і Алесь Пушкін усталявалі крыж ля дарогі, крыху не даходзячы да Крапівенскага поля, а потым самі доўгі час шуткавалі, што «нашая слава стаіць, як той крыж, ля дарогі!..»

З той пары шмат чаго адбылося: і ўрачыстая прысяга на вернасць Бацькаўшчыне ў 1992-м, і карэнная змена дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да нацыянальнай славы ў 1995 годзе, пасля чаго святкаванне было негалосна на нейкі час забароненае. Гэта А.Лукашэнка заявіў аб сабе і сваім беларусканенавісніцтве.

Але традыцыя не спынялася. У 1998 годзе прысутнічала ўсяго 13 чалавек, а ў 1999 – ужо каля дзвюх соцень.

Сам прысутнічаў там у мінулым годзе ўпершыню. Крапівенскае поле дае моцныя, незабыўныя ўражанні. На досвітку, калі прыдаць сваім думкам крыху фантазіі, можна ўявіць сабе, як вось тут у гэткі самы час перапраўлялася конніца Астрожскага. А вось тут схавалі ў асадзе гарматы, рыхтуючы пастку маскалям. Можна ўбачыць слаўнага гетмана Астрожскага на ўзгорку, на белым кані. Ён прыклаў да сваіх вачэй руку і праз чорныя, кусцістыя бровы пазірае на поле, дзе хутка павінна пачацца бітва.

Сёлета, як было сказана вышэй, Аршанскі цэнтр імя Уладзіміра Караткевіча ладзіць сцэнар святкавання. Спачатку – рыцарскі турнір, на які збіраюцца прыехаць рыцары з клуба Арыны Вячоркі з Мінска, незалежныя «Ваўкі» з Наваполацка, а таксама рыцарскія суполкі з Магілёва і Бярэсця.

Пасля гэтага ксёндз аршанскага касцёла св.Язэпа айцец Яраслаў адслужыць імшу па загінуўшых падчас Аршанскай бітвы і ў барацьбе за вызваленне Беларусі. Неаднаразова правесці аналагічнае богаслужэнне запрашаліся і святары Рускай праваслаўнай царквы. Але арганізатары атрымлівалі толькі маўчанне ў адказ. Але будзем спадзявацца, што ў хуткім часе лёд недаверу будзе растоплены і святары маскоўскай кангрэгацыі з'явяцца на Крапівенскім полі.

Пасля імшы выставу сваіх работ правядзе Алесь Пушкін. Цяжка сказаць, чым яго карціны такія небяспечныя. Але ўлады забаранілі іх паказ у гэтым годзе ў Навагрудку падчас рыцарскага турніру, прысвечанага 600-й гадавіне Грунвальдскай бітвы.

А ўсю ноч будуць спяваць беларускія барды. Ужо запрошаныя **Андрусь Мельнікаў, Віктар Шалкевіч, Зміцер Бартосік, Вольга Цярэшчанка і іншыя. Сумаваць не давядзецца.**

Тых, хто жадае зрабіць цікавую вандроўку ў мінулае дый проста добра правесці час, у 15.15 9 верасня 2000 года на чыгуначным вакзале ў Оршы будзе чакаць аўтобус. Просьба пры сабе мець ежу, цёплае адзенне і наметы на выпадак дажджу. Вечар пад зоркамі ў беларускім асяродку будзе незабыўным. А раніцай 10 верасня ў 10.30 усе будуць дастаўленыя назад на чыгуначны вакзал. **Удакладненні можна атрымаць у арганізатараў па тэлефонах: 8 (02161) 5-25-40 і 8 (02161) 4-47-07.** ■



# Святлана Алексіевіч: «Я пішу сваю гісторыю краіны-утопіі»

**«У вайны – не жаночае аблічча». «Апошнія сведкі». «Цынкавыя хлопчыкі». «Зачараваныя смерцю». «Чарнобыльская малітва»... Гэтую апошнюю дакументальную кнігу Святланы Алексіевіч ва ўсім свеце выдаюць ужо некалькі гадоў, а на радзіме і па-беларуску яна з'явілася толькі днямі – яе выдаў грамадска-літаратурны фонд «Гронка».**



Другой нагодай пагутарыць з пісьменніцай, якая нядаўна вярнулася з Японіі, дзе тамтэйшае тэлебачанне здымала фільм паводле ейных твораў, стала тое, што бліжэйшым часам Святлана Алексіевіч на два гады пакідае краіну. На запрашэнне і стыпендыю пісьменніцкага Еўрапарламента будзе жыць у італьянскай Фларэнцыі. Чаму?

— Толькі не з-за страху, што тут такая сітуацыя. Так, усе мы жывем у дэпрэсіі, асабліва інтэлектуалы, тыя, хто ўдзельнічае ў Адраджэнні, проста інтэлігентныя людзі. Навокал шмат страху, знікаюць людзі. Але я не з-за страху, бо лічу, што баяцца – не годна чалавеку. Мы і так сядзім на руінах, і калі ўдадзімся яшчэ і ў страх, то нас наогул не будзе за што паважаць. Можа быць, будзь у нас іншае жыццё, я б так надоўга не паехала. З чаго пачынаецца кожная раніца? Аніводнага добрага званка. Усё дэпрэсіўнае: там забаранілі, там здрадзілі, дзесьці купілі. Па шчырасці, я дужа стамілася за гэтыя 20 гадоў, пакуль я пішу сваю гісторыю краіны-утопіі, жывых галасоў утопіі: з кнігі ў кнігу я пішу менавіта гэтую тэму – што ж мы за людзі? Адна з нашых бедаў сёння – тое, што мы жывем у замкнёнай прасторы, што мы замкнёныя на сябе. І мне хацелася б пабыць у іншым свеце, далёка ад сваёй культуры, ад знаёмай прасторы, ад тутэйшай сістэмы каштоўнасцяў, пабачыць самую сябе і ўсіх нас адтуль.

***— Спадарыня Святлана, а што, на вашую думку, мы мусім рабіць, каб вырвацца з рэзервацыі страху, замкнёнасці і дэпрэсіі?***

— Мы і так гістарычна запозненая нацыя, а існуючая ўлада адкідае нас яшчэ далей. Яна стала больш жорсткай, апанела на месцах. Людзі разгубленыя. Гэта цэлых 5 гадоў: калі чалавеку было 20, то зараз 25. Карацей, ягонае жыццё як след не здзейсніцца. Ён, як ахвяра гэтай улады, зноўку пражыве ў адасобленай ад астатняга свету краіне. Мы павінны знаходзіць апрышча. І шкада, што гэтага не робяць вялікія асобы, што нацыянальная ідэя таксама сілкуецца эстэтыкай пачатку стагоддзя, не ўводзячы новага інтэлектуальнага арсенала. Мне здаецца, сёння крытыка ўлады – гэта пройдзены этап. Усім усё зразумела. Пагаварыце з любым чалавекам – у чарзе, у тралейбусе альбо ў вёсцы – усе расчараваліся. Хай то на свядомым ці падсвядомым узроўні. Яна нам не падыходзіць па ўсім, асабліва новым пакаленням. Галоўная праблема зараз не ва ўладзе, а ў апазіцыі. Апірышча можна знайсці толькі ў асабістай годнасці і ў тым, каб не даць быту заесці сябе, не даць паглынуць насаджанай сістэме выжывання. Вайна ці недабрабыт – добры спосаб прымусіць чалавека не думаць аб уласнай годнасці. Тады вы не вымагаеце нармальнай кватэры і нармальнай зарплаты. Тады і 15 долараў хопіць. Таму я даўно не веру ў ніякія рэвалюцыі, а лічу, што партыі нашы павінны выязджаць хоць бы за Стоўбцы. Працаваць з народам, адраджаючы ў ім змятае пачуццё годнасці і самакаштоўнасці.

***— Гэтыя працэсы на гады...***

— Тым больш што цяперашні стан кансервуецца. Чым небяспечнае жабрацтва? Яно прыніжае і разбэшчвае чалавека. Таму што чалавек не створаны для перагрузак, і мала хто здольны гэтаму супрацьстаяць. Развіцця грамадскай свядомасці няма. Я думала, што калі няздатная інтэлігенцыя, то гэтаму будуць спрыяць сучасныя тэхналогіі, скажам, інтэрнет. Але, каб такія пакаленні падышлі, гадоў 15 трэба.

***— Спадарыня Святлана, у любым выпадку ўдаласць сутнасных пераўтварэнняў у асобе залежыць ад дзяржаўнай палітыкі. Той жа інтэлігенцыі проста не даюць уплываць. Напрыклад, вашая «Чарнобыльская малітва» выйшла толькі цяпер.***

— Чаму? Я, напрыклад, усё ж знайшла грошы і выдала, хоць магла дагэтуль хадзіць і гаварыць, ай, мяне не выдаюць. Так, я спакойна сказала, што, калі ў выдавецтва «Мастацкая літаратура» прыйшоў дырэктарам Марчук, мне кнігу вярнулі. Але ў той жа час я шукала грошы, а разам з тым, калі «Чарнобыльская малітва» з'явілася ў Расіі, адну са сваіх прэміяў я патраціла на тое, каб закупіць частку накладу, прывезці сюды і бясплатна раздаць. Гэта да таго, што можна супрацьстаяць.

***— Вы лічыце, што рэальнае выйсце толькі менавіта ў інтэлектуальнай вайне з дзяржавай?***

— Так, гэта адзінае, чым мы можам перамагчы, і гэта адзіная вайна, якую я прызнаю. Я супраць культуры барыкаднай барацьбы. З барыкадаў будучага не бачна, а толькі мішэні. Многія лічаць, што барыкады ўсё зробяць. Барыкаднае жыццё вельмі захапляльнае, паколькі мы выхаваныя ў ім. Я кажу маладым людзям, што час кепскі і трэба змагацца і галасна мовіць, але не зрабіце так, што не застанецца прафесіяналаў. Я б не хацела, каб мне шыла сукенку прафесійная рэвалюцыянерка ці лячыў зубы прафесійны рэвалюцыянер. Час усё роўна працуе на новыя ідэі, перамены настануць. Паглядзіце на іхнія твары — гэта твары ўчарашняга дня. Так, мы закладнікі сваёй культуры і ментальнасці, і пажаданыя працэсы ідуць марудна, але трэба рыхтавацца: іначай прыйдзе час, а мы нічога не будзем умець, апрача таго, як матляць сцягам і агучваць набор палітычных ісцінаў.

***— Вашая творчасць больш прымаецца за мяжой. Лёс ва ўсіх вашых кніжак у Беларусі праблемны, а то і скандальны. Іх быццам бы баяцца, але, як вам здаецца, чаму?***

— Я думаю, што гэта звязана з абаронай псіхікі. Добра сказаў калісьці мне адзін хлопец у Кабуле падчас афганскай вайны: «Мы з вамі сядзім і разважаем пра «забіць – не забіць», але ўсё гэта пасляваенныя пытанні. Калі я пачну іх задаваць сабе тут, то не выжыву. А вось калі вярнуся, выйду ў двор і буду ведаць, што мяне ніхто і ніадкуль не заб'е, вось тады я буду думаць над гэтымі пытаннямі». Прыкладна тое самае ў тэлефанаванні сказаў адзін знаёмец пасля «чарнобыльскай» кнігі. Маўляў, ён толькі зараз уцяміў, што такое Чарнобыль. Я кажу: «Ну як, ты ж жывеш сярод гэтага». А ён: «Можа быць, мы і выжываем таму, што не задумваемся». Дарэчы, у Нямеччыне мяне часта пытаюць, чаму ніхто з нашымі дзеткамі, якія туды прыязджаюць, не гаворыць у Беларусі на тэму Чарнобыля, чаму з імі гавораць пра гэта толькі ў Аўстрыі, Італіі ці ў Нямеччыне. Бо з Чарнобылем нам жыць вечна.

Другі момант у тым, што мы маем справу, знаходзячыся пад уплывам рускай культуры, з кансерватыўнай формай свядомасці. Прычым яна трымаецца на міфах. Ну вось скажыце, пасля трагедыі з «Курскам», пасля пажару на Астанкінскай вежы, а тым больш вайны ў Чачні, пра якую вялікую Расію можа весціся гаворка. Але Пуцін узяў менавіта падобнымі абяцанкамі, зноў тым самым міфам. А міфы пры такой кансерватыўнай форме мыслення дужа моцныя, яны сягаюць далей словаў – у падсвядомасць, куды словамі прабіцца вельмі складана. Калі вы пачынаеце прабівацца, пачынаецца агрэсія. Напрыклад, яшчэ на судзе над «Цынкавымі хлопчыкамі» я зразумела, што ў мужчынаў нельга ўзяць цацку, што яны пераможцы, і нават у жанчынаў, бо калі ім, цягаючым аграмадныя клункі і варачым супы з нічога, кажуць, маўляў, вы расціцё герояў, то гэта ж зусім іншыя пачуванні. А калі чалавек здымае і адмаўляецца паўтараць такія заклёны, стаіць паміж барыкадамі, ён становіцца мішэнню з абодвух бакоў. Наогул пісьменнік нашай культуры знаходзіцца заўсёды на двух узроўнях рызыкі. Першы — канфлікт з уладай, які ў мяне, дарэчы, быў заўжды: адну кнігу рассыпалі, другую два гады не друкавалі, за трэцюю судзілі, штосьці выходзіла з «купюрамі».

***— Ну, гэта нармальна...***

— Так, гэта не галоўны канфлікт. Самы жудасны канфлікт – з масавай свядомасцю. Ён жудасней таму, што бывае ад бяссілля апускаюцца рукі. А Лукашэнка, спрэчкі цара з паэтам – гэта вядома, чым скончаецца. Дзе тыя, хто забіў, зацкаваў Купалу? Іх няма. А вось калі прыязджаеш у вёску, дзе памірае дзіця, таму што няма лекаў і ніхто не пашле за аніякую мяжу лячыць, а ўсё навокал заражанае, а маці даяркай атрымлівае грошы, якіх ледзьве на хлеб хапае, у той час як у буфеце стаіць паштоўка з партрэтам Лукашэнкі, і яна са слязьмі на вачах кажа, што «вось , толькі на яго надзея», тады апускаюцца рукі.

***— А як чытаюцца вашыя кнігі за мяжой? Там жа не могуць прасякнуцца так, як тыя людзі, што жывуць тут?***

— Я не ведаю, якім бы чынам чыталі за мяжой, калі б жылі ў тутэйшым кашмары. Адно няпраўда, што там жывуць людзі спрэс прагматычныя і халодныя. Яны больш вольныя ад побытавага прыніжэння і больш чуллівыя, а мы ўжо знаходзімся трохі ў шоку ад болю. Іх могуць схамянуць такія рэчы, якіх мы проста не заўважаем. Потым я ж не пішу «страшылкі», не зводжу праблему да Сталіна ці Лукашэнкі, а даследую чалавечую прыроду. А чалавек паўсюдна аднолькавы. ■

**Гутарыў**
**Кірыла ПАЗЬНЯК**

ФЕСТЫВАЛІ

## Пяты штурм «Белай вежы»

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

**З 8 па 13 верасня пройдзе традыцыйны тэатральны фестываль драмы і лялек «Белая вежа». Гэтым разам ужо пяты. Можна лічыць — прамежкавы юбілей. Відаць, таму сёлета арганізатары (міністэрства культуры і Саюз тэатральных дзеячаў, а таксама Берасцейскія абл- і гарвыканкамы) зрабілі яго адрозным ад папярэдніх.**

Па-першае, «Белая вежа» звычайна праводзілася ў кастрычніку, але сёлета было вырашана зрабіць фестываль месяцам раней. Як тлумачыць загадчык аддзела тэатраў мінкульта Вадзім Дапкюнас, каб «было цяплей». Справа ў тым, што акцёры, граючы на пляцоўках на адкрытым паветры, у мінулагоднім кастрычніку часам проста мерзлі.



Па-другое, адкрыццё фестывалю са сталай берасцейскай прапіскай упершыню адбудзецца ў Камянцы, каля сценаў Белай вежы, вядомага гістарычна-архітэктурнага помніка. Адмыслова дзеля гэтага там узвялі сцэнічную пляцоўку.

Адкрываць фестываль будзе Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы – спектаклем «Князь Вітаўт». Відовішча мае быць файным: прыцемкі, паходні, конныя рыцары. У міністэрстве культуры кажуць, што зачын «Князем Вітаўтам» – гэта падвойная даніна пашаны аўтару п'есы драматургу Аляксею Дудараву, якому сёлета споўнілася 50 гадоў, а таксама Купалаўскаму тэатру, які ў гэтым годзе адзначыў 80-ыя ўгодкі з дня заснавання.

Сярод іншых пастановак беларускіх тэатраў гледачы пабачаць зноў жа дудараўскую «Палачанку» ТЮГа, «Камедыю пра Барыса Гадунова і Грышку Атрэп'ева» Горкаўскага тэатра і «Шагал, Шагал...» віцебскага тэатра імя Якуба Коласа пра гады сталення земляка-мастака. Дарэчы, гэты спектакль на нядаўна прайшоўшым тэатральным фестывалі ў шатландскім Эдынбургу, які лічыцца самым прэстыжным у свеце, узяў Гран-пры.

Фестываль мае міжнародны статус, таму, напрыклад, сёлета сюды, апрача беларусаў, з'едуцца тэатры ажно 14 краінаў, прычым упершыню з Кітая і Швейцарыі. У прынцыпе, «Белая вежа» — ці не адзіная для беларускіх тэатральных і глядацкіх колаў магчымасць наглядаць за развіццём тэатральнага мастацтва ў свеце. Але асабліва чакаюцца выступленні лос-анджэлескага лялечнага тэатра Джыма Гэмбла, леташняга пераможцы ў намінацыі лялечнай пастаноўкі.

Гэта завядзёнка — запрашаць на наступны фестываль мінулагодніх лаўрэатаў. Але такое правіла арганізатары чамусьці не распаўсюдзілі на Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі («Вольная сцэна»), чый «Стомлены д'ябал» на «Белай вежы-1999» перамог сярод драматычных спектакляў. Прычына, відаць, палягае ў канфлікце паміж «Вольнай сцэнай» і міністэрствам культуры вакол мэтазгоднасці працягу кантракта з мастацкім кіраўніком тэатра Валерыем Мазынскім.

Называць лаўрэацкія прэміі па 4 намінацыях — за лепшую лялечную пастаноўку, драматычную і за лепшае ўвасабленне мужчынскай і жаночай роляў — у мінкульце асаблівай ахвоты не маюць, бо, маўляў, яны «смешныя». Аднак ТЮГу, Коласаўскаму, Горкаўскаму і Купалаўскаму тэатрам пазмагацца на «Белай вежы» ёсць за што: упадабаны журы беларускі тэатр атрымае ад міністэрства грошы на дадатковую пастаноўку ў выглядзе дзяржзаказу. ■







КАНФЕСІІ

## Правакацыйная ініцыятыва брэсцкага святара

**Павел ЖАЎНА**

**Па сродках масавай інфармацыі прайшла вестка пра акт вандалізму, які здзейснены невядомымі ў адносінах да часовай царквы Спаса на Крыві, размешчанай у мікрараёне Вулька Брэста.**

Раней паведамлялася, што некалькі месяцаў таму парафіяльны святар Свята-Васкрасенскага кафедральнага сабора айцец Ян Грудніцкі вырашыў, што Брэсту неабходная копія Санкт-Пецярбургскай царквы Спаса на Крыві. У былой сталіцы Расійскай імперыі яна была пабудаваная на месцы забойства народавольцамі імператара Аляксандра II. Якое гэта мае дачыненне да Брэста і чаму тут патрэбны такі Спас — зразумець немагчыма, тым не менш з ініцыятывы святара ў мікрараён быў дастаўлены чыгуначны вагон для набажэнстваў, пакуль не будзе ўзведзены адпаведны будынак. Падлеткі, нязвычныя да палявых цэркваў на колах, разбілі ў вагоне ўсе шыбы. За гэта іх прымусілі каяцца, а іхныя бацькі меліся аднаўляць пашкоджанні гэтага часовага Спаса на Крыві.

31 верасня, як паведамляе БелаПАН, быў збіты вартаўнік вагона-храма, раскіданы прадметы рэлігійнага культу, сарваны абразы са сценаў. З гэтай прычыны расследаваннем абставінаў акта вандалізму заняліся супрацоўнікі раённага аддзела міліцыі Маскоўскага раёна Брэста.

Бясспрэчна, што хуліганскія ўчынкі нельга пакідаць без пакарання, і вінаватым прыйдзецца адказваць за гвалт. Аднак, гэтак жа бясспрэчна, што ў выпадку з гэтай канкрэтнай царквой людзей наўмысна правакуюць. Са школьных гадоў усе ведаюць, што на загад так званага цара-вызваліцеля Аляксандра II праходзіла задушэнне паўстання 1863-1864 гадоў на Беларусі. Мноства людзей былі пакараныя смерцю, болей за 10 тысяч сасланы на катаргу і ў Сібір. З ягонага ўхвалення адбываўся гвалтоўны перавод у праваслаўе каталікоў і уніятаў. Гістарычная памяць пра Каліноўскага, ураджэнца Брэстчыны Траўгута пакуль яшчэ жывая. Таму праява царкоўнага клопату пра ўшанаванне крыві «вызваліцеля» па меншай меры – здзек. Наўрад ці святар Грудніцкі насмеліўся прывесці вагон для набажэнстваў без благаславення свайго вышэйшага начальства з Экзархата. Хоць царква зараз і ўхваляе часы імперыі, калі панавала над душамі і мела падтрымку ўлады і паліцыі, але ж трэба хоць крыху думаць, як паставяцца людзі да гэтакіх «спасаў на крыві». Тады не прыйдзецца мацаваць саюз царквы з міліцыяй для вышуку хуліганаў. ■

